# З Новым годам цябе, Чалавек, З Новым векам!




ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР.

№ 1 (1638) | Панядзелак, 1 студзеня 1962 года. | Цана 4 кап.

## НАВАГОДНЯЕ ВІНШАВАННЕ САВЕЦКАМУ НАРОДУ

Дарагія суайчыннікі, сябры і таварышы!

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР і Савет Міністраў СССР сардэчна віншуюць вас з надыходзячым Новым годам. Горача жадаем вам у новым годзе добрага здароўя, новых перамог у слаўнай працы на карысць нашай вялікай Радзімы, у імя перамогі камунізма. Няхай новы год будзе яшчэ больш шчаслівым і паспяховым для кожнага з вас, для ўсяго савецкага народа, для ўсіх людзей добрай волі.

1961 год пакінуў аб сабе добрую памяць. Ён увойдзе ў летапіс чалавецтва як год гістарычнага XXII з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, які прыняў новую Праграму партыі — Камуністычны маніфест дваццатага стагоддзя.

З гордасцю і радасцю азіраемся мы на год мінулы, з упэўненасцю глядзім у год будучы.

Наша магутная Радзіма ўступае ў новы год у росквіце стваральных, творчых сіл. Савецкі народ бярэ ўсё новыя вышыні, паспяхова выконвае сямігадовы план, ажыццяўляе вялікую праграму пабудовы камунізма.

Мы ўзводзім велічны будынак камунізма на трывалым эканамічным фундаменце. Наша краіна воляй савецкіх людзей ператварылася ў вялікую індустрыяльна-калгасную дзяржаву. У 1961 годзе прамысловасць выпусціла прадукцыі столькі ж, колькі за ўсю першую пасляваенную пяцігодку.

Слаўна папрацавалі ў мінулым годзе і працаўнікі сельскай гаспадаркі. Яны засыпалі ў засекі дзяржавы на 320 мільёнаў пудоў збожжа больш, чым у 1960 годзе.

Прайшоўшы год азнаменаван вялікімі дасягненнямі савецкай навукі, тэхнікі, сацыялістычнай культуры. Увесь свет узрушылі бяспрыкладныя палёты савецкіх касманаўтаў, верных сыноў нашай Радзімы камуністаў Юрыя Гагарына і Германа Цітова. Творчым геніем савецкага чалавека адкрыт шлях да Месяца, шлях у касмічныя далячыні.

З кожным годам расце дабрабыт савецкага народа. Каля пяцідзесяці мільёнаў чалавек, амаль чвэрць усяго насельніцтва краіны, справілі за апошнія пяць год наваселле! Усё, што робіцца ў нашай краіне, робіцца ў імя чалавека, для шчасця чалавека. Савецкі народ не спыняецца на дасягнутым, ён ідзе да камунізма шырокім і цвёрдым поступам.

1961 год быў годам выдатных перамог сусветнага камуністычнага і рабочага руху, перамог сіл міру над сіламі рэакцыі і вайны.

Камуністычная партыя, Савецкі ўрад, усе савецкія людзі настойліва адстайваюць трывалы мір на зямлі. У гэтай высакароднай барацьбе поплеч разам з намі ідуць брацкія краіны сацыялізма, усе міралюбівыя народы зямнога шара.

Свет сацыялізма валодае магутнай матэрыяльнай базай для ўтаймавання агрэсараў і прадухілення вайны. Узброеныя Сілы Савецкага Саюза, аснашчаныя навейшай сучаснай тэхнікай і першакласнай зброяй, пільна стаяць на варце мірнай працы савецкіх людзей.

Гістарычны XXII з'езд партыі высока ўзняў сцяг барацьбы за мір. Уступаючы ў новы год, мы гаворым народам і дзяржавам: няхай мір, свабода і шчасце зробяцца здабыткам усіх людзей на зямлі! Няхай 1962 год зробіцца годам далейшага ўмацавання міру і дружбы паміж народамі!

Камуністычная партыя і Савецкі ўрад будуць і надалей паслядоўна, настойліва змагацца за далейшы росквіт нашай краіны, за трывалы мір на зямлі, умацоўваць і развіваць адносіны брацкага супрацоўніцтва паміж краінамі сацыялізма, аказваць дружалюбную дапамогу народам, якія скінулі каланіяльнае ярмо і сталі на шлях будаўніцтва новага жыцця.

Дарагія таварышы і сябры!

Перад намі вялікі і слаўны шлях. У надыходзячым годзе нам трэба будзе ажыццявіць новыя вялікія справы. Яны нараджаюць магутны прыліў творчых сіл савецкага народа, натхняюць яго на новыя сусветна-гістарычныя перамогі ў будаўніцтве камунізма.

Слава савецкаму народу, народу-працаўніку, барацьбіту, будаўніку камунізма!

Сардэчнае прывітанне і найлепшыя пажаданні народам брацкіх сацыялістычных краін!

Жадаем далейшых поспехаў працоўным усяго свету ў іх высакароднай барацьбе за мір, дэмакратыю і сацыялізм!

Няхай жыве і мацнее несакрушальнае яднанне Камуністычнай партыі, Савецкага ўрада і народа — залог усіх нашых перамог у барацьбе за камунізм!

З Новым годам, з новым шчасцем, дарагія таварышы!

ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КПСС | ПРЭЗІДЫУМ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР | САВЕТ МІНІСТРАЎ СССР

## На парозе 1962

**Задумы, планы, мары... Пад Новы год яны акрэсліваюцца асабліва выразна.**

**Што цікавага прыходзіць з Новым годам у Ваша жыццё, у Вашу працу?**

**На гэтае пытанне адказваюць сёння ў газеце работнікі літаратуры, мастацтва, культуры.**

*НАШ НАРОД ніколі не забудзе выдатныя падзеі мінулага года, калі з трыбуны XXII з'езда Камуністычнай партыі на ўвесь свет было абвешчана пра пачатак новай эры ў жыцці чалавецтва. Велічныя планы пабудовы камунізма ў Савецкай краіне, прынятыя на з'ездзе, адкрываюць шырокае поле дзейнасці перад беларускімі кампазітарамі. Мы павінны як мага больш пісаць на тэмы сённяшняга дня, аб нашых героях-сучасніках і сваімі музычнымі творамі духоўна ўзбагачаць людзей, клікаць іх да блізкай запаветнай мэты.*

*Я пачынаю ствараць буйны сімфанічны твор (магчыма, гэта будзе сімфанічная паэма), у якім пастараюся перадаць сродкамі музыкі думкі і пачуцці маіх суайчыннікаў, іх упэўнены поступ у Камуністычнае заўтра. Думаю таксама напісаць цыкл харавых акапэльных твораў на словы беларускіх паэтаў М. Танка, П. Труса, А. Вялюгіна, Ул. Дубоўкі і іншых.*

**А. БАГАТЫРОЎ,**
**кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтва БССР.**

*НЕ ВЕДАЮ, як каму, а мне шкада развітвацца з ім, шкада, што ён ужо мінулы, што яго ўжо завуць старым. Хораша і сумна, як пры развітанні з добрым, шчырым таварышам. Чулы, зычлівы быў год, з якім настала пара развітацца...*

*Год гэты застанецца ў маёй памяці як адна з самых дарагіх вех ужо немалой дарогі.*

*Многія жадаюць у новым годзе лепшага шчасця. Я буду рады, калі той, што прыйшоў, будзе падобны на мінулы. Такі ж чулы будзе да жаданняў і мар, якія асабліва хвалююць, калі хочаш зазірнуць у невядомую яшчэ прастору новага.*

*Хачу, каб быў мір на зямлі, каб было шчасце ў людзей і ў маёй сям'і, каб была тая добрая настроенасць у сэрцы, калі працуецца ў радасць, у смак. Праца ж чакае не малая — пачаты новы раман, які будзе працягам «Людзей на балоце»...*

**Іван МЕЛЕЖ.**

*СУСТРАКАЮЧЫ новы, 1962 год, з якога пачынаецца слаўны 20-гадовы шлях пабудовы камуністычнага грамадства ў Савецкай краіне, кожны з нас, работнікаў мастацтва, добрым словам успамінае мінулы, 1961 год. Колькі радасных і хвалюючых сустрэч, колькі новых знаёмстваў з рознымі гледачамі адбылося ў нашага ансамбля за час яго леташніх гастрольных падарожжаў па Уралу і гарадах Венгерскай Народнай Рэспублікі. Усюды наша роднае беларускае мастацтва кранала сэрцы людзей, абуджала ў іх светлыя пачуцці.*

*Свой леташні адпачынак я прысвяціў збіранню цудоўных перлаў беларускага музычнага фальклору ў раёнах Гомельшчыны і Брэстчыны. Мною было запісана каля ста народных песень — гераічных, лірычных, жартоўных. Многія з гэтых свежых магнітафонных і слыхавых запісаў народнай творчасці я мяркую апрацаваць для свайго ансамбля, рэпертуар якога павінен сёлета папоўніцца новымі беларускімі песнямі і танцамі, а таксама творамі краін народнай дэмакратыі. У прыватнасці, збіраемся паставіць вакальна-харэаграфічную карцінку «Працавалі дзеванькі» — аб працы і адпачынку калгаснай моладзі. Нам стала вядома, што апроч гастролей па Беларусі, ансамбль выедзе з канцэртамі ў гарады Расійскай Федэрацыі і Украіны.*

**Г. ЦІТОВІЧ,**
**народны артыст БССР, мастацкі кіраўнік Беларускага народнага ансамбля песні і танца.**

## ПРЭМІІ І ДЫПЛОМЫ — ЛЕПШЫМ

Для павышэння якасці мастацка-паліграфічнага афармлення кніг Рэспубліканскае навукова-тэхнічнае таварыства паліграфіі і выдавецтваў праводзіць штогадовыя конкурсы па выяўленню 20 лепшых выданняў мінулага года.

У снежні 1961 года падведзены вынікі першага рэспубліканскага конкурсу на 20 лепшых кніг па іх мастацкаму афармленню і паліграфічнаму выкананню.

На конкурс паступіла 131 кніга. Дзяржаўнае выдавецтва БССР прадставіла 113 кніг, Вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР — шэсць, выдавецтва Акадэміі навук БССР — чатыры, выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР — восем кніг.

Журы ўважліва разгледзела ўсе гэтыя выданні. На конкурс было дапушчана 40 кніг. З іх прэміі атрымалі 20 лепшых кніг.

Прэміруючы непасрэдных удзельнікаў стварэння лепшых кніг, журы конкурсу ўлічвала працу мастакоў-графікаў, мастацкіх і тэхнічных рэдактараў, друкароў, рэтушораў і іншых работнікаў паліграфіі.

Дыпломаў першай ступені ўдастоены дзве кнігі: «Вераб'іныя госці» А. Якімовіча і «Літоўскія народныя казкі».

За першую з названых кніг дыпломы прысуджаны Дзяржаўнаму выдавецтву БССР, друкарні выдавецтва «Звязда», мастаку Е. Лось, тэхнолагу Е. Фішэль.

Першая грашовая прэмія прысуджана мастаку Е. Лось і тры чацвёртых прэміі рэтушорам Г. Ленскаму, М. Ваданосу і афсетчыкам В. Сімагу і В. Кручкоўскаму.

За кнігу «Літоўскія народныя казкі» дыпломы прысуджаны Дзяржаўнаму выдавецтву БССР, Мінскаму паліграфічнаму камбінату імя Я. Коласа, мастаку В. Ціхановічу, тэхнолагу Ф. Драздоўскай. Першую прэмію атрымаў мастак В. Ціхановіч, чацвёртыя прэміі — рэтушоры К. Чарняўскі, Х. Розін, друкар М. Пісцун і тэхнолаг Ф. Драздоўская.

Дыпломаў другой ступені ўдастоены: руская народная казка «Сястрыца Алёнушка і братка Іванушка», «Люба Лук'янская» К. Чорнага, «Палеская рапсодыя» Ул. Дубоўкі, «Мая Беларусь» Т. Хадкевіча.

Усе іншыя выданні ўдастоены грашовых прэмій.

У ліку 20 лепшых кніг асноўнае месца займае мастацкая і дзіцячая літаратура Дзяржаўнага выдавецтва БССР. Толькі па адной кнізе Вучэбна-педагагічнага выдавецтва і адна Выдавецтва Акадэміі навук БССР увайшлі ў лік лепшых, адзначаных журы конкурсу.

Вынікі конкурсу паказваюць, што афармленню кніг у рэспубліцы стала аддавацца значна больш увагі, часцей цяпер прымяняюцца супервокладкі, відаць, што мастакі, тэхнічныя і мастацкія рэдактары шукаюць новыя рашэнні.

## НАВАГОДНЯЯ

Словы **А. БАЧЫЛЫ** Музыка **Ю. СЕМЯНЯКІ**

1. Ціха, міла кружацца сняжынкі за акном,
Сэрцы нашы поўняцца радасцю надзей.
Новы год, чаканы госць, заходзь у кожны дом
Святам нашай гордасці, песняй для людзей.

Хай пануе ў нас навекі
Дружба, згода, лад.
Чалавек для чалавека —
Друг, таварыш, брат.

Падары, Новы год, маладосць душы,
Цені хмар, чорных хмар разагнаць спяшы.
Да людзей спагадай ты прыдзі,
Сэрцы іх для шчасця абудзі.
І нідзе ты не сей на зямлі нягод —
Мір нясі з краю ў край, Новы год!

2. Ярка, ярка свецяцца далёкія агні,
Час сустрэчы радаснай святам настае,
Б'юць даўно жаданыя куранты ў цішыні,
Сэрцы поўны гордасці, а душа пяе:

Хай пануе ў нас навекі
Дружба, згода, лад.
Чалавек для чалавека —
Друг, таварыш, брат.

Ты прынось, Новы год, маладосць душы,
Цені хмар над зямлёй разагнаць спяшы,
Да людзей спагадай ты прыдзі,
Сэрцы іх для шчасця абудзі.
І нідзе ты не сей на зямлі нягод, —
Згоду, мір ты нясі, Новы год!








